# З жыцця БГКТ на Гайнаўшчыне

У першай палове кастрычніка адбылося пасяджэнне Павятовага праўлення БГКТ у Гайнаўцы, на якім быў апрацаваны план працы на 4 квартал 1961 г. і было вынесена рашэнне, каб да канца года правесці сходы ў 5 гуртках. Я на першым пасяджэнні забавязаўся правесці сходы да канца года ў 5 гуртках. З гэтай мэтай 19.X. паехаў у Арэшкава, дзе вечарам у святліцы адбыўся сход гуртка. На сходзе выявілася, што двух членаў праўлення ўзяты ў армію, а троці выехаў на работу. На гэтым сходзе запісалася 3 новых членаў, выбрана новае праўленне і апрацавана план працы. 29.X. быў праведзены супольны сход членаў гуртка БГКТ і членаў Саюза сялянскай моладзі, на якім прысутнічала 70 асоб. Старшыня гуртка Сельвесюк у кароткіх словах расказаў аб заданнях БГКТ. Сход рашыў: праводзіць культурныя забавы, пераплятаючы іх дэкламацыямі і спяваннем беларускіх песень, падрыхтаваць 3 пастаноўкі, пабольшыць колькасць падпісчыкаў «Нівы» і прыняць актыўны ўдзел у распаўсюджванні беларускага календара.

На сходзе ў Старым Беразове быў таксама намечаны план працы гуртка. Моладзь наракала, што няма святліцы ў вёсцы, а гэта з'яўляецца вялікай перашкодай у культурнай працы моладзі. Яна заявіла, што ўлажыла б яшчэ больш сіл у гарадскі чын пры будове святліцы, каб толькі дастаць патрэбны матэрыял і дазвол.

25.XI. адбыўся сход гуртка БГКТ у Чыжах, на якім прысутнічала 50 асоб. На гэтым сходзе запісалася 25 новых членаў. Потым было выбрана новае праўленне, у склад якога ўвайшлі: Люба Сегень — старшыня, Валя Рубчэўская — сакратар, Якуб Шышкевіч — скарбнік, Вольга Башун і Мікалай Міхалюк — члены. Усе прысутныя прасілі, каб у хуткім часе Чыжы наведала «Лявоніха» і каб «Бэтэска» памагла арганізаваць выраб матэрыялаў будаўляных. Жвіру добрай якасці тут многа.

26.XI. былі праведзены сходы ў Збучы і Старакорніне. У Збучы выбралі скарбнікам Янку Краська. У Старакорніне запісалася 6 новых членаў і выбралі ў праўленне гуртка Аляксея Алексеюка — старшынёю, Мікалая Гаўрылюка — сакратаром, Сяргея Алексеюка — скарбнікам і Зіну Швед — членам.

28.XI. адбыўся сход гуртка ў Дубінах. Запісалася 10 новых членаў. Да праўлення гуртка выбраны: старшынёю Яўгені Свентахоўскі, Вольга Гурустовіч — сакратаром, Вера Кураш — скарбнікам і членамі Яноўская, Янка Браслаўскі і Мікалай Гіншт.

На ўсіх сходах былі выбраны прадстаўнікі гурткоў на курс актыву ў Беласток.

**Васіль Дзун**

---

**У Клюковічах (Сямяціцкі павет) вельмі быў патрэбны скупачны пункт мяса і збожжа, як на пастаўкі, таксама і лішкі. Да бліжэйшага скупачнага пункту ў Чаромусе 15 км. На падарожжа і чаканне ў чарзе (пункт скупкі ў Чаромусе абслугоўваў вельмі многа вёсак) гаспадары затрачвалі шмат часу.**

**Грамадскі камітэт ПАРП у Клюковічах вырашыў, што скупачны пункт можна наладзіць у сябе. Быў нявыкарыстаны стары будынак. Адаптавана яго на магазін. Але перашкодай у канчатковым наладжанні пункту быў дрэнны даезд. Па ініцыятыве Грамадскага камітэта партыі арганізавана грамадскі чын. Жыхары Клюковіч і акружаючых вёсак не адказалі ў дапамозе.**

**— ...Бо гэта нам, для нашых патрэб, — гаварылі.**

**Праз некалькі дзён дарога (даезд) да магазіна была гатова.**

**Дзякуючы сялянам, якія папрацавалі грамадскім чынам, у кастрычніку наладжана скупачны пункт у Клюковічах.**

## ДЛЯ СВАЁЙ ВЫГАДЫ

**М. К.**

---

Маланкавая анкета

# ГОЛАС МАЕ „ЛЯВОНІХА"

НІНА СВЕНТАХОЎСКАЯ — салістка эстрады (21 год, не замужняя, нарадзілася ў вёсцы Палаўцы на Гайнаўшчыне).

Спяваць пачала ў дзяцінстве. Першы раз перад публікай выступіла з песняй «Упрыгожым нашы хаткі», будучы яшчэ ў пачатковай школе. Тады і атрымала першыя воплескі. Мабыць і таму гэтая песня запомнілася Ніне на ўсё жыццё.

У 1957 годзе Ніна паступіла ў музычную школу ў Беластоку. А ў наступным годзе, будучы на курсе ў Супраслі, пазнаёмілася з калектывам мастацкай самадзейнасці, які існуе пры ГП БГКТ. З таго часу стала яго ўдзельніцай. У «Лявоніхе» працуе ад пачатку яе існавання.

— Мае найбольшыя перажыванні? Сёлета дырэктар Беластоцкага сімфанічнага аркестра грамадзянін Гейгер запрапанаваў мне ўзяць удзел у канцэрце аркестра. Спявала разам з вядомай артысткай Варшаўскіх сцэн — Дзікуўнай. Выконвала арыю Вольгі з оперы «Яўгеній Анегін». Ох і хвалявалася ж я!

— Прыключэнні за час выступленняў у эстрадзе? Было іх шмат. Аднаго разу, калі эстрада выступала ў вёсцы Вярхлесе на Сакольшчыне, я выконвала песню: «Што за месяц, што за ясны...» Пры гэтым я неяк паглядзела ўверх. Усе прысутныя таксама пагледзелі ўверх. Што за дзіва? Сапраўды, праз столь, заглядаў у вярхлескую святліцу ясны месяц. Справа ў тым, што ў гэтай святліцы зусім няма столі, а страха дзіравая. Зразумела, што ўсе прысутныя пырснулі смехам, я таксама.

— Планы на будучыню? Хачу закончыць вышэйшую музычную школу і далей спяваць.

**— Дзякуем і жадаем поспехаў.**



---

1956 г. паведаміў сельгасаддзел ПРН у Беластоку, што вартасць дома па Аксейчуку Ігнасю, якім зараз карыстаецца Грамадзянін складае суму 5.800 зл...

4. Зараз пасля дзесяці год цяжка было б акрэсліць стан будынка і яго вартасць перад разабраннем Грамадзянінам, таму зараз прымаецца вартасць таго ж будынку ўстаноўленую праз ПЗУ».

Ужо ў самым гэтым тлумачэнні выявіць можна недакладнасці.

Вартасць будынка была ўстаноўлена пасля яго перабудовы.

Сельгасаддзел патрабуе ад У. Мікалайчука не 5.800 зл., як гаворыцца ў тлумачэнні, а 6.227 зл.

Аднак адна і другая сума ўзяты з паветра, бо гэта няпраўда, што няма асноў для ўстанаўлення вартасці будынка яшчэ ў тым стане, у якім ён знаходзіўся стоячы на старым месцы. Калі паважанымураднікам сельгасаддзела ПРН у Беластоку і ўсім іншых установ, якім у сваіх канторах давялося разглядаць гэтую справу і бы мяч адпіхаць селяніна ад Анаша да Кайфаша, — калі ім не дастаткова сцверджанняў людзей, якія памятаюць яшчэ той час, калі гэтая хатка ў 1924 г. была пабудавана і была лазняй мясцоваму насельніцтву, а затым выкарыстоўвалася, як сушарня ільну; сцверджанні людзей якія памятаюць, што Ігнась Аксейчук гэтую хатку адкупіў ад вёскі за некалькі літраў самагонкі, — калі гэта яшчэ не зможа пераканаць паважаных чыноўнікаў, прапаную ім пазнаёміцца з адным дакументам. Выстаўлены ён ад 19 сакавіка 1948 г. павятовым інспектарам ПЗУ ў Беластоку. Гэты дакумент сцвярджае, што вартасць будынка, які займаў тады Уладзіслаў Мікалайчук складае суму 28.000 зл., што па сённяшнім курсе дае 840 зл.

**Віктар Рудчык**

---

# МЕЛІЯРАЦЫЯ — ВАЖНЕЙШАЕ ЗАДАННЕ

**(Працяг са стар. 1)**

саў. Такіх лугоў і паш у Беластоцкім ваяводстве налічваецца блізка 30 тысяч га сенажацяў, на якіх трэба зрабіць невялікія і некаштоўныя меліярацыйныя абсталяванні. Гэта могуць зрабіць самі сяляне без меліярацыйных праектаў.

Сальскагаспадарчыя гурткі і аднаасобныя гаспадары ў бягучым годзе пад надзорам меліярацыйнай службы і Прэзідыумаў рад нарадовых приступілі да іх загаспадаравання.

У выніку гэтай акцыі загаспадаравана ў 1961 годзе блізка 3.760 га.

Сельскагаспадарчыя ўлады ставяць так справу, каб да 1965 года ўсе сыродпольныя сенажаці і пашы былі загаспадараваныя.

А калі ўсе заданні планаваныя па меліярацыі на гэтую пяцігодку будуць выкананы, тады быдла на Беласточчыне пабольшыцца ў найгоршым выпадку на 183 тысяч штук. Адначасова пабольшыцца малака, масла, мяса, угнаення. Будуць таксама звольнены ад кармавых пасеваў вялікія плошчы зямлі, на якіх стане расці збожжа. А за гэтым усім ідзе ўзрост матэрыяльнага ўзроўню сялян.

**М. Х.**

---

юць нейкую ўсемагутную моц — я паўтараў сабе, што калі буду вялікі, неадкладна ліквідую гэтае зло.»

Пад уплывам тых гнеўных мерапрыемстваў вавілонскага бога Людвік пачаў «мяшаць мовы», змяняць, перакручваць словы. Не быў ён у гэтым адасоблены: шмат дзяцей рабіла гэта самае, хоць па іншых напэўна матывах. Навучыўся дзіўнай мовы і неўзабаве перагнаў майстраў у бегласці карыстання ёю. Паміж склады слоў устаўляў нейкі непрыкметны гук, напрыклад, «ля» або «дэ», ці іншы, і ўжо новая мова была гатова. «Падай мне сшытак» гучэла тады дзівосна: «Ля-па-ля-дай ля-мне ля-сшы-ля-так»; «атрымаў двойку» — дэ-а-дэ-тры-дэ-маў дэ-двой-дэ-ку» і г.д. Адэпт чароўнага мастацтва рабіў усё, каб перагнаць канкурэнтаў у спраўнасці гэтага балбатання. Людвік атрымліваў тут вялікія перамогі. Вынайшоў таксама іншы спосаб перакручвання слоў. Напрыклад, слова «пантофель» гучэла ў яго «панфотель» або «тенпофаль», «дабранач» — «браданач» і г.д. З гэтых дзіваў лёгка ўкладваў сказы і бегла карыстаўся імі, рыфмуючы нават.

Ва ўсіх дзяцей манія гэта па нейкім часе праходзіла. Ва ўсіх — за выключэннем Людвіка Заменгофа. Пасля года перакручвання пачаў тварыць новую мову! А толькі энергіі і працы ўкладваў у слоўную гульню, што калі б выкарыстаў гэтыя намаганні на пераадольванне патрабаванняў школы, пераскакваў бы праз некалькі класаў у год. Калі быў сам, мармытаў дзівоснай гаворкай, запісваў сшыткі няўмелымі знакамі і формуламі. Занудзваў сяброў і дарослых. Сёстры былі сапраўднымі мучаніцамі яго маніі. Найстарэйшая, Сара, якую асабліва любіў Людвік, падтрымлівала з ім гэтую пастаянную балбатню, але малодшыя, Фаня і Аўгуста, паддаваліся яго камандаванню пасля найбольшага прымусу. Фелікс, дзіцяня яшчэ, зразумела не лічыўся.

Бацька не цярпеў гэтай маніі сына. У Людвіка аднак вырастала яна да памераў сістэматычных і паважных заняткаў, упартага і шляхетнага захаплення. Не спынілася яна нават тады, калі пасля пераходу ў гімназію прыбавілася школьных заняткаў і дамашняй працы над лекцыямі. Бацька, лічачы, што гэтае захапленне перашкаджае Людвіку ў навуцы, энергічна з ім змагаўся. Калі аднак хлапец цяжка захварэў і вымушаны быў на год спыніць навуку ў школе, бацька крыху змякчэў.

...З кожным днём Людвікам усё больш авалодвала думка: Калі буду дарослы, вынайду супольную мову і схілю ўсе народы карыстацца ёю для іх дабра».

У гэтай мары не было аднак, як сам потым напіша, ніякіх акрэсленых планаў. Аб ідэі ўсечалавечай мовы скажа: «Няясна нейк цягнула мяне да яе». У марах аб будучыні, так характэрных хлопцам у гэтым узросце, бачыў сябе толькі як творца міжнароднай мовы. Калі думаў аб лаўрах, дык менавіта на гэтай ніве, нягледзячы, што ад самага ранняга дзяцінства бацька рыхтаваў яго да прафесіі лекара.

У 1870 годзе спаткала Заменгофаў няшчасце. Памерла хваравітая, далікатная Сара. Людвік балюча адчуў гэту смерць. І хоць у наступным годзе ўбытак у сям'і рэкампенсавала нараджэнне новага патомства, хлопца, якога назвалі Генрыкам, Людвік не мог забыць любімай сястры. Як толькі прыступаў да працы над «мовай чалавечнасці», заўсёды ставала яна перад вачыма. Як бы для ўшанавання памяці гэтай першай сваёй вучаніцы і прыхільніка, яшчэ з большым запалам аддаўся сваёй працы.

Бацька пачаў у гэты час думаць аб пераездзе ў Варшаву. У сувязі з гэтым часта паўтараў сыну:

— Вучыся, кінь байкі і гульні! У варшаўскай гімназіі і ўзровень вышэйшы, і патрабаванні вышэйшыя... Замнога часу прысвячаеш глупствам Займіся мукою, з якой будзе хлеб. Чалавек мае ў жыцці замала часу, каб мог сабе дазволіць на гэтакія забавы.

Бацька і сын не разумелі адзін аднаго.

**(Урывак з кніжкі «Доктар Эсперанта». Пачатак у папярэднім нумары. Пераклаў Хведар Асініч)**

